# Тыднёвік Магілёўскі




№ 16 (157) 19 – 25 красавіка 2002 г. Кошт 100 руб.

КУРАПАТЫ: АПОШНІЯ ЗЬВЕСТКІ

## Чорным па беламу...



Фота IREX

*Традыцыйны для кожнага нумара "ТМ" рэпартаж (падаецца ніжэй) аб апошніх падзеях у Курапатах ужо быў падрыхтаваны для друку, калі зь Менску прыйшла трывожная вестка аб міліцэйскай ліквідацыі лягеру валанцёраў. Мы вырашылі аднак не адмаўляцца ад друкаваньня падрыхтаванага матэрыялу, а ўжо за ім – падаць з Курапатаў апошнія навіны, якія здабудзем перад самым друкаваньнем газэты.*

*Сьціплым атрымалася адзначэньне 200-га дня з пачатку ваоланцёрскай абароны. Падставаў для радасьці, а тым больш для зьніжэньня пільнасьці ў лягеры сапраўды няшмат. З новым размахам распачатае будаўніцтва дарогі не дае перадыху. Штодня даводзіцца пераадольваць чарговыя наступствы "рэканструкцыі кальцавой шашы". Тут зламаныя і засыпаныя зямлёй крыжы, і талая падземная вада, што безьперапынна бяжыць са сьцёку ў бок Крыжа Пакуты...*

*З асаблівай цеплынёй валанцёры гавораць пра Ірыну Важнік, якую часам называюць беларускай Маці Тэрэзай. Нягледзячы на тое, што яна адна гадуе двух дзетак і даглядае хворую маці, гэтая жанчына вельмі часта носіць валанцёрам харчы, лекуе іх, перажывае за іхную справу. За мінулыя сем месяцаў спадарыня Ірына стала ледзь ня самым блізкім чалавекам для маладых патрыётаў. Яна прызнаецца, што хвалюецца за асабісты лёс і здароўе дзяўчатаў і хлопцаў, якія трымаюць вахту. А тыя, трэба зазначыць, у сваю чаргу апекуюцца клопатамі сваёй названай матулі: дзеляцца харчамі, прыбіраюць разам зь ёй у двары (яна працуе, каб атрымаць асобную кватэру, прыбіральшчыцай), знаходзяць для хворай маці Ірыны патрэбныя лекі.*

*Іншым разам хапае ў Ірыны Важнік часу і сілаў нават на вершы, якім яна давярае самыя шчырыя думкі: "А я не хачу падняволньнай здавацца. Не "гражданы" мы, а свабодны народ. Пакліча мой край за радзіму змагацца, пайду у лясы адкапаць кулямёт. А ўвечары выйду – улётку наклею, дзе чорным па беламу: "я не баюсь!" Хай вечна у душах ня гасьне надзея, а ў сэрцы хай вечна – "Жыве Беларусь!"*

## ... Гвалт супраць памяці

*16 красавіка а 19-й гадзіне вечара ў Курапаты прыехалі дзьве патрульныя міліцэйскія машыны. Сьведка нечаканага візыту Любоў Сакалоўская паведаміла журналістам, што ў намёт увайшло міліцэйскае начальства з Савецкага РАУСу. Яны былі ў цывільным, але дзяўчына іх пазнала, бо гэтыя ж начальнікі ўжо кіравалі леташнім штурмам лягеру. Гэтыя людзі выгналі хлопцаў, што былі ў намёце, на вуліцу. Потым па мабільным тэлефоне выклікалі нейкую машыну. Дзяўчына тым часам пабегла ў мікрараён, да тэлефона, каб паведаміць у горад аб візыце міліцэйскіх чыноў. А калі вярнулася, ні гэтых чыноў, ні хлопцаў ужо не было. Флагшток быў на зямлі. І сьцяга не было...*

*Сталася вядомым, што чатырох валанцёраў захапілі "дзеля высьвятленьня асобаў". Кіраваў гэтай апэрацыяй начальнік Савецкага райаддзелу міліцыі Менску Бусло, які, дарэчы, як аб гэтым пазьней сталася вядома, афіцыйна знаходзіцца ў адпачынку.*

*Неўзабаве ў Курапаты прыехалі актывісты палітычных партыяў ды грамадзкіх арганізацыяў. Вось як пракамэнтаваў зарыманьні лідэр Партыі Свабоды Сяржук Высоцкі:*

*– Рэжым паказаў свой ашчэр. Вельмі характэрна, што гэта адбылося менавіта сёньня – тады, калі мы падалі заявы ў Камітэт барацьбы з арганізаванай злачыннасьцю і ў пракуратуру. Мы падалі заявы пра тыя сыстэматычныя правакацыі й хуліганскія напады на нас з боку "невядомых" людзей. Сёньняшнія падзеі – адказ улады на тое, як яна ставіцца да сваіх грамадзянаў.*

*Актывіст БНФ Вячаслаў Сіўчык дадаў, што гэтую атаку на лягер можна было прадбачыць. Улады рабілі ўсё, каб выцесьніць адсюль валанцёраў, а калі такое легітымным мэтадам не ўдалося – прыбеглі да гвалту.*

*... Аднак гэтай жа ноччу і назаўтра месцы затрыманых валанцёраў у лягеры занялі іхныя калегі. Разам зь імі ў лягеры начуюць Вячаслаў Сіўчык і Алесь Чахольскі ад Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ. Абаронцы гатовыя да любога разьвіцьця падзеяў.*

**Паводле радыё "Свабода"**

## Культура ачуняла

***Дзень нацыянальнага смутку – 16-я гадавіна Чарнобыльскай трагедыі – пройдзе ў Магілёве безь вясёлага канцэрту расейскай шоў-зоркі.***

Першымі на недарэчную дату абвешчанага канцэрту зьвярнулі ўвагу магілёўскія дэмакраты, аб'яднаныя ў пастаянна дзеючую нараду. Менавіта падчас разгляду сваёй праграмы адзначэньня Дня смутку яны й спатыкнуліся на афішы канцэрту, безсаромна прызначанага на 26-га красавіка. Дэмакраты адрасавалі кіраўніцтву абл- і гарвыканкаму, а таксама ўправе культуры заяву з патрабаваньнем узгадніць з заезжай акторкай перанос выступу на іншы дзень.

І вось сталася вядома, што канцэрт 26-га красавіка адменены. Спасылкі на дэмакратычны зварот пры гэтым няма. Аўтары яго, дарэчы, і не настойваюць на тым, што менавіта іхны голас аказаў уплыў на зьмену ў гастрольным раскладзе акторкі. Магчыма, што й самое начальства своечасова спахапілася. Галоўнае, што мараль і чалавечнасьць атрымалі ў нас маленькую, але такую рэдкую ў наш час, а таму – надзвычай важкую перамогу...

***"Тыднёвік"***




## Ня ўсе маўчаць у зоне

***Па ініцыятыве Беларускай асацыяцыі журналістаў на адрас адміністрацыі краіны і эўрапейскай супольнасьці накіраваны Зварот рэдактараў беларускіх СМІ аб пагаршэньні сытуацыі з свабодай слова.***

У дакумэнце прыводзяцца прыклады незаконнага перасьледу журналістаў і пэрыядычных выданьняў за выкананьне імі прафэсійных абавязкаў. Нагадваецца, што ліквідаваная гарадзенская незалежная газэта "Пагоня", а над яе рэдактарам М.Маркевічам і журналістам П.Мажэйкам учыняецца крымінальны суд па артыкулу за "абразу прэзыдэнта". Распавядаецца пра гвалтоўнае спыненьне гарадзенскай міліцыяй салідарных з "Пагоняй" пікетаў калегаў, па выніках якіх 13 журналістаў былі неадэкватна пакараныя суткамі арыштаў і штрафамі.

У Звароце зьвяртаецца ўвага на тое, што толькі ў Беларусі – адзінай эўрапейскай краіне – існуе практыка падзелу СМІ на "сваіх" і "чужых", а таксама выкарыстаньне ў барацьбе з няўгоднымі журналістамі і выданьнямі праваахоўных органаў, КГБ, пракуратуры і суду.

Рэдактары, якія падпісалі Зварот, адрасуюцца таксама да заканадаўчай Палаты, куды днямі Міндрук прадставіць праекты новых законаў аб СМІ і інфармацыі, якімі ўлада мае намер яшчэ больш пагоршыць стан свабоды слова і друку. Аўтары Звароту прапануюць правесьці шырокае грамадзкае абмеркаваньне праектаў гэтых заканадаўчых актаў да таго, як яны будуць унесеныя ў поўнасьцю паслухмяны выканаўчай уладзе парлямэнт.

***Менск, 16 красавіка 2002г.***

*Пад Зваротам, зьмест якога рашуча накіраваны на ліквідацыю ў цэнтры Эўропы своеасаблівай "зоны маўчаньня", якой на сёньня застаецца Беларусь, свае подпісы паставілі рэдактары агульнанацыянальных і рэгіянальных недзяржаўных газэтаў (уключна з рэдактарам "ТМ" Генадзем Суднікам – рэд.), кіраўнікі БАЖ, вядомыя журналісты. Зварот застаецца адкрытым для падпісаньня. Аднак пакуль пад ім няма ніводнага подпісу калегаў зь дзяржаўных СМІ і Саюзу журналістаў.*

## Дэклярацыі і рэчаіснасьць

***Прэзыдэнт Чэскай Рэспублікі Вацлаў Гавал глыбока занепакоены парушэньнем правоў чалавека на Беларусі.***

Апошнія выпадкі парушэньняў, такіх, як права на свабоду сходаў і выказваньняў, перасьлед прадстаўнікоў апазіцыі, палітычна матываваны ціск, ліквідацыя "Пагоні" разам з крымінальнай справай супраць журналістаў газэты – усё гэта, на на думку Вацлава Гавала, знаходзіцца ў вялікай супярэчнасьці з дэкляраванымі заявамі беларускіх кіраўнікоў аб далучэньні краіны да эўрапейскіх і міжнародных структураў.

Прэзыдэнт Чэхіі заклікаў да неадкладнага спыненьня крымінальнага перасьледу журналістаў і парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі.

***Паводле Інтэрнэту***



## Свой погляд на тыдзень вобласьці

Запазычанасьць па пэнсіях у вобласьці на сёньня дасягнула 25 мільярдаў рублёў. У красавіку ў фонд сацыяльнай абароны насельніцтва, які выплочвае пэнсіі, паступіла ўсяго 600 мільёнаў рублёў. А трэба ня менш за 1,5 мільярды! Ня дзіва, што затрымкі па пэнсіях ужо пераўтвараюцца ў сталую зьяву. І няма ніякай пэўнасьці ў тым, што асноўныя донары пэнсійнага фонду – прадпрыемствы, прапацуюць лепш ды ўзнавяць безьперапыннае пералічэньне ўнёскаў на фондаўскія рахункі. Рыхтуйцеся, старыя людзі, да выпрабаваньняў...

У Магілёве адбылася надзвычай важная нарада, на якой абмяркоўваліся пытаньні прамысловай бясьпекі. Гаварылася пра зношанае абсталяваньне (дзе-ндзе яно адпрацавала па два тэрміны), якое пагражае здароўю людзей. Насамрэч усе нашыя прадпрыемствы, уключаючы самыя буйныя, на сёньня ня здольныя падтрымліваць у неабходнай ступені узровень бясьпекі. Яшчэ ў памяці выбух на "Хімвалакно", шэраг аварыяў на іншых прадпрыемствах. Чыноўнікі, аднак, ня могуць кардынальна зьмяніць сытуацыю, як бы яны не стараліся. Па-першае, на большасьці прадпрыемстваў даўно скарочаныя інжынэры па тэхніцы бясьпекі. А па-другое, даць сабе рады ў пытаньнях бясьпекі на прадпрыемствах здольная дадрабытная, моцная дзяржава. У нас жа яна мацнее на зусім іншым напрамку свайго разьвіцьця.

У Бабруйска на працоўнай канфэрэнцыі шынная камбінату дырэктар быў вымушаны прызнаць, што сытуацыя на прадпрыемстве крытычная. Ён сам і пералічыў "складанасьці": зьніжэньне вытворчасьці, празьмерна затратная прадукцыя, нястача зваротных сродкаў на сыравіну, запчасткі й інвэстыцыі, велізэзная запазычанасьць. Як кажуць, традыцыйны набор праблемаў цяперашняй беларускай прамысловасьці. Хоць трэба зазначыць, што праблемы камбінату – гэта ўжо праблемы ўсяго гораду, дый нават вобласьці. І чарговым разам кіраўнік прадпрыемства, патлумачыўшы прычыны затрымкі заробкаў вось гэтымі праблемамі, далей у сваіх высновах не пайшоў. Бо наракаць на эканамічны курс – справа для яго немагчымая. Хоць, можа ён і ведае тое, што без карэнных зьменаў у гаспадарчай палітыцы будзе толькі горш.

Працытую урывак з артыкулу зь "Весьніку Магілёва". Журналістка піша: "Асаблівы акцэнт быў зроблены і на невыкананьне шэрагам раёнаў заданьня па пералічэньні грошавых сродкаў за прайшоўшы суботнік у абласны бюджэт". Мяркую, што асаблівага свавольства аўтарка матэрыялу тут не зрабіла. Бо суботнік, які па вызначэньні ёсьць добраахвотнай справай, у нас – "добраахвотнапрымусовы". Таму й зьяўляюцца гэтыя "заданьні па пералічэньні" і "пляны па даходах". Дзяржава на кожным кроку стварае міты, падманваючы грамадзянаў і самую сябе. Такім чынам у нас і вытворчасьць расьце, і справядлівыя выбары праходзяць. А "дзяржаўныя журналісты" толькі й робяць, што агучваюць "генэральную лінію"...

*Свой погляд на падзеі тыдня прэзэнтаваў*
**Сымон Глазштэйн.**

НЕЗАЎВАЖАНАЯ ГАДАВІНА

## Тое быў першы крок

***Мінула 7 гадоў ад 12-га красавіка 1995г., калі ў будынку Вярхоўнага Савету невядомым спэцпадразьдзяленьнем былі жорстка зьбітыя 18 дэпутатаў апазыцыі БНФ.***

Яны, як вядома, абвесьцілі галадоўку проста ў залі паседжаньняў парлямэнту, пратэстуючы супраць першага лукашэнкаўскага рэфэрэндуму (аб мове, сьцягу і гербе).

Дакладна ў 7-ую гадавіну гэтай прыкрай гісторыі, зь якой пачаліся ўсе астатнія беларускія беззаконьні, Лукашэнка браў удзел у ток-шоў "Свабода слова" на расейскім канале НТВ. Зь Менску дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня Валянцін Голубеў, які сам быў у ліку зьбітых, запытаўся ў яго, дзе тая праўда аб падзеі, якую Лукашэнка абяцаў паведаміць (і нават паказаць на тэлестужцы) народу і ўсяму сьвету. Аднак той зрабіў выгляд, што не зразумеў, аб чым гаворка.

Тады, як і цяпер, асабліва ніхто не сумняваўся ў тым, што сам Лукашэнка і даваў згоду на ўварваньне ў дэпутацкую залю. Побач зь ім былі верныя Леанід Сініцын і Іван Ціцянкоў. А непасрэдна выконвалі апэрацыю тагачасныя палкоўнікі ўнутранай службы Цесавец, Каралёў і Барадзіч.

У кастрычніку 1995г. сьледзтва па гэтай справе было афіцыйна спыненае з-за немагчымасьці, як было сказана ў пастанове, "высьвятленьня асобаў, якіх належыць прыцягнуць у якасьці абвінавачаных".

**Іна СТУДЗІНСКАЯ**

## Ва ўлады ўчэпістая памяць

***Падчас леташняй выбарчай прэзыдэнцкай кампаніі ў нашай вобласьці адбылося некалькі гучных затрыманьняў апанэнтаў рэжыму, а супраць некаторых нават былі заведзеныя крымінальныя справы.***

Пацярпелі, як мы падрабязна інфармавалі чытачоў, пяцёра юнакоў, што "дазволілі сабе" правесьці на Шклоўшчыне тэатралізаваную агітацыйную акцыю, якую пракуратура ўспрыняла як крымінальнае дзейства. Свае міліцэйска-пракурорскія шоў адбываліся ў Клімавічах, Слаўгарадзе, Быхычах, Магілёве. Але ж пераплюнулі ўсіх усё ж шклоўскія праваахоўныя органы...

Менавіта ў Шклове быў арыштаваны грамадзкі назіральнік за выбарамі Пётар Мігурскі. Цяпер ён выкладае ў адным з магілёўскіх ВНУ, але крымінальная справа супраць яго не зачыненая. Шклоўская пракуратура імкнецца прыцягнуць яго да адказнасьці па артыкулу, які вінаваціць у "фальсыфікацыі вынікаў выбараў". Яго, бацьку трох дзяцей, выпускніка Беларускай сельгасакадэміі, вядомага ў раёне чалавека, затрымлівалі амонам, узброеным аўтаматамі, у касках і бронекамізэльках. Першы раз ён быў арыштаваны 7-га верасьня, а ўжо 8-га быў звольнены з выкладчыцкай працы ў Воршы, дзе тады працаваў.

– Я, дарэчы, ня вельмі крыўдую на аршанскае маё начальства: разумею, што не яны вінаватыя, ім загадалі, а людзі цяпер запужаныя ў нас, – кажа П.Мігурскі. – Іншае мяне бянтэжыць. Артыкул, па якому вядзецца мая "крымінальная справа". Скажыце, як можа назіральнік, які не ўваходзіць ні ў якую камісію, ня мае допуску да выбарчых дакумэнтаў, сфальшаваць выбары?! Дзікунства й толькі...

Пятру Мігурскаму, дарэчы, апазыцыйныя калегі прапаноўвалі магчымасьць зьехаць з краіны па палітычных матывах. Аднак ён адмовіўся.

– Мне не выпадае хадзіць і хваліцца тым, што я пацярпеў за палітычныя перакананьні, што не магу знайсьці сабе месца ў краіне, – працягвае спадар Пётар. – Працы ў нас шмат. Ды й краіна гэта – мая, тое-сёе я для яе зрабіў, але зрабіць яшчэ трэба нашмат больш. Куды бегчы, ад каго?.. Магчыма, што я буду балятавацца на нейкае дэпутацкае месца. Мне ж улада зрабіла ніядрэнную рэпутацыю і папулярнасьць. А краіне патрэбныя новыя людзі й новыя ідэі, бо мы адсталі ад сьвету на шмат гадоў. Горш за ўсё ў адставаньні – правал у маралі. Вы паглядзіце, якія вакол злыя людзі, падазроныя, нецярпімыя, падзеленыя на "сваіх" і "ворагаў". Вось гэта – самае страшнае, што зрабіў цяперашні рэжым. На жаль, некаторых дзеячаў з нашай "шырокай палітычнай апазыцыі", здаецца, задавальняе такі стан рэчаў. Аднак ніхто нашыя праблемы ня вырашыць і нашай сытуацыі ня зьменіць, акрамя нас саміх.

***Паводле Радыё "Рацыя"***

## ШТО НА ТЫДНІ... У БАБРУЙСКУ І КРЫЧАВЕ



***Грамадзкая ініцыятыва "Свая справа" арганізавала сэмінар "Да грамадзянскай супольнасьці праз супрацоўніцтва ў вырашэньні сацыяльна-эканамічных і палітычных праблемаў рэгіёну".***

На запрашэньне да ўдзелу ў сэмінары ўдзячна адгукнуліся актывісты няўрадавых арганізацыяў з Асіповічаў, Глуску, Дараганава, Ялізава, Клічава. Падчас вольнага абмену думкамі і канцэптуальных дыскусіяў былі абмеркаваныя праблемы дзейнасьці няўрадавых арганізацыяў у такой надзвычай наблізанай да людзей сфэры, як сацыяльна-эканамічныя патрэбы.

Было адзначана, што грамадзкія арганізацыі могуць і павінны ўплываць на сацыяльныя пытаньні больш дзейсна. Для гэтага ім патрэбна, у прыватнасьці, быць бліжэй да людзей. Сэмінар зацьвердзіў стратэгію набліжэньня NGOs рэгіёну да розных колаў мясцовага жыхарства.

***У сувязі з скарачэньнем колькасьці адказных пасадаў у гарвыканкаме пазбавіўся пасады намесьнік старшыні па ідэалягічнай працы і культуры Віктар Гарбанёў.***

У горадзе яго ведалі як адданага прыхільніка палітыкі Лукашэнкі й нястомнага барацьбіта зь недзяржаўнымі арганізацыямі, а таксама з палітычнымі дэмакратычнымі суполкамі. Напрыклад, падчас леташняй выбарчай кампаніі па выбарах прэзыдэнта ён уласнаручна прымаў удзел у затрыманьнях і складаньнях пратаколаў на актывістаў ініцыятыўнай групы У.Ганчарыка.

Пакуль невядома, куды будзе накіраваны гэты чыноўнік, але ніхто ў горадзе не сумняецца, што "цэнны кадар" не прападзе. Хоць паводле скептыкаў, ён можа паўтарыць незайздросны лёс былога старшыні гарвыканкаму У.Раманоўскага, таксама адданага паплечніка кіраўніка краіны, якому ніякага "прыстойнага месца" у горадзе не знайшлося.

**Віктар КАЧАН**



***Днямі ў горадзе пабачыў сьвет першы нумар незарэгістраванай гумарыстычнай газэткі "Нешта".***

Яна зьявілася працягам ранейшага выданьня пад назовам "Вар'ятня". Аднак цяпер новая газэта будзе друкавацца на рускай мове. Распаўсюдам выданьня займаецца мясцовы кампутаровы клюб "Dexter", які штодзень наведвае велізарная колькасьць моладзі. Застаецца дадаць, што дапамогу ініцыятыўнай групе аматараў своеасаблівага гумару аказала грамадзкае аб'яднаньне "Кантакт-цэнтар".

***Напрыканцы мінулага тыдня ў сярэдняй школе №4 быў праведзены пашыраны (за кошт аддзелу адукацыі) бацькоўскі сход.***

На ім абмяркоўвалася праблема запланаванага закрыцьця гэтай навучальнай установы. Апошнім часам незайздросны стан эканомікі ў раёне ўжо прывёў да закрыцьця адной зь сямі крычаўскіх школ. Але галоўным здарэньнем сталася тое, што падчас паседжаньня загадчык раённага аддзелу адукацыі Міхаіл Мазок выгнаў з залі рэдактара незарэгістраванай газэты "Вольны горад" Сяргея Няроўнага.

На думку апошняга, гэткі некультурны і, на першы погляд, дзіўны чыноўніцкі крок тлумачыцца страхам улады перад аб'ектыўнай інфармацыяй аб мясцовых падзеях.

**Андрэй КУЗЬМІН**

## ... А "палітыку" не даруюць

***Суд Цэнтральнага раёну Магілёва задаволіў пазоў муляра будаўнічага трэсту №12 Аляксея Паўлоўскага, які быў незаконна звольнены з працы.***

Пасьля чатырох тыдняў вывучэньня абставінаў справы і яе разгляду суд пастанавіў аднавіць А.Паўлоўскага на працы і затрабаваў ад адміністрацыі кампэнсаваць яму маральныя страты і судовыя выдаткі.

Нагадаем, што Аляксей Паўлоўскі ўзначальвае трэстаўскую суполку Свабоднага прафсаюзу, якая неаднаразова заступалася перад адміністрацыяй за пакрыўджаных ёю будаўнікоў. Магчыма, што цярпеньне адміністрацыі лопнула падчас некалькіх судоў супраць яе з боку групы падманутых рабочых, якія па загаду кіраўніцтва трэсту працавалі ў Маскве. На іхным баку настойліва і кампэтэнтна стаяў Свабодны прафсаюз, дзякуючы чаму рабочым удалося адсудзіць большую частку таго, што ім не дадалі ў Маскве і дома.

Ды й ўвогуле з часу ўтварэньня ў будаўнічай арганізацыі суполкі Свабоднага прафсаюзу адміністрацыя трэсту пільна сачыла за А.Паўлоўскім. Яму не даравалася ніякія дысцыплінарныя дробязі. Апошнюю вымову перад звальненьнем у лютым яму абвесьцілі за адсутнасьць на працы ў суботу – у так званы "бацькоўскі дзень". Як бацька пяцёх дзяцей, А.Паўлоўскі цалкам законна карыстаўся гэтым днём. Аднак адміністрацыя абвінаваціла яго ў тым, што ён нібыта не аформіў свой законны вольны дзень як трэба.

На судзе ж было даказана, што адміністрацыя ў звальненьні А.Паўлоўскага рацыі ня мела. Суд праявіў павагу да закону, а не пайшоў, як гэта звычайна робіцца у "палітычных" справах, на згоду з прадстаўнікамі ўладнага боку.

**Алесь СЕРДЗЮКОЎ**

# ... Вучыць яны нас будуць!

***Абвесьціўшы Беларусь "больш дэмакратычнай, чым Францыя", Лукашэнка яшчэ летась паставіў задачу вызваліцца з-пад апякунства місіі АБСЭ – кансультацыйна-назіральнай групы, якая надзеленая адпаведным міжнародным мандатам.***

Зьдзіўляцца аднак трэба не таму, што афіцыйны Менск выставіў за дзьверы спачатку кіраўніка місіі сп.Віка, а цяпер зрабіў гэта зь ягоным намесьнікам сп.Рывальле, пазбавіўшы яго беларускай візы. І нават не таму, што робіцца гэта па-хамску *("вышвырнем из страны")* і без тлумачэньняў "вінаватасьці" у нечым місіі перад Беларусьсю. Зьдзіўляцца варта таму, што гэтую (дарэчы, як лічаць многія апанэнты Лукашэнкі, надзвычай лагодную да беларускага рэжыму і ягонай палітыкі) групу эўрапейскіх дыпляматаў той самы рэжым цярпеў даволі працяглы час. Бо людзі, якія сёньня пры ўладзе, не разумеюць (магчыма, шчыра) сэнсу паняцьцяў кансультатыўнасьці й назіральнасьці. Ніводзін прадстаўнік, напрыклад, ураду ні зь якім сп.Вікам, а тым больш з сп.Рывальле ніколі й ні аб чым не кансультаваўся. У такой сытуацыі кіраўніцтва місіі было вымушанае – каб давесьці свае назіраньні "за разьвіцьцём дэмакратыі ў краіне" да грамадзтва – кантактаваць з апанэнтамі рэжыму, зь недзяржаўнымі газэтамі. Гэта й лічылася "недапушчальным умяшальніцтвам ва ўнутраныя справы" і "падрыўнымі сувязямі з апазыцыяй".

Высылка з краіны сп.Рывальле па-сутнасьці азначае спальваньне апошніх мастоў паміж Беларусьсю і Эўропай. Цяпер у краіне можа пачацца (ці працягнуцца?) усё, што заўгодна. Асабліва пасьля апошняга "пераможнага" візыту Лукашэнкі ў Маскву, дзе ў Крамлі яму ніхто не нагадваў пра парушэньні правоў чалавека, адсутнасьць дэмакратыі й сацыяльна-эканамічных рэформаў. Яго там заспакойвалі і ўлагоджвалі нейкімі "посьпехамі інтэграцыі". Што на гэтым тле нейкае там АБСЭ...

*Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК па пытаньнях палітыкі*

# Пытаньняў большае з кожным днём

***"Стан дэмакратыі ў Беларусі выклікае ў Літвы шмат заўвагаў і пытаньняў", – заявіў дэпутат Літоўскага Сэйму Вацлаў Станкевіч.***

Ён паведаміў, што на красавіцкай сэсіі Парлямэнцкай Асамблеі Рады Эўропы літоўская дэлегацыя падтрымае стварэньне спэцыяльнай камісіі па Беларусі, бо беларускі ўрад ня робіць ніякіх крокаў у кірунку дэмакратызацыі.

"Літва праводзіла й будзе праводзіць скаардынаваную з эўрапейскімі краінамі палітыку адносна Беларусі", – паведаміў прэсавы сакратар МЗС Літвы Пятрас Заполскас, камэнтуючы нядаўнія заявы калегі зь беларускага МЗС, які абвінаваціў Літву ў адсутнасьці "самастойнай палітыкі". Раздражненьне ўладаў Беларусі выклікаў факт правядзеньня ў Вільні дзесяць дзён таму парлямэнцкіх слуханьняў па правах чалавека, у якіх прынялі ўдзел беларускія апазыцыйныя палітыкі й жонкі зьніклых вядомых у Беларусі людзей.

*Юрась КАРМАНАЎ*

# Маўклівая беларуская перасьцярога

***На мінулым тыдні ў штаб-кватэры ААН 66 дзяржаваў ратыфікавалі дамову пра стварэньне першага ў гісторыі сталага Міжнароднага крымінальнага суду.***

Ідэя стварэньня міжнароднага трыбуналу над дыктатарамі й ваеннымі злачынцамі была рэалізаваная праз паўстагодзьдзя пасьля свайго ўзьнікненьня. Паводле генэральнага сакратара ААН К.Анана, зьяўленьне такога суду дазволіць запоўніць прабел у міжнародным заканадаўстве. Цяпер адказнасьць за найбольш цяжкія злачынствы будуць несьці не дзяржавы альбо ўзброеныя сілы, а канкрэтныя асобы.

Стварэньне такой структуры шырока віталі большасьць дэмакратычных дзяржаваў, Асацыяцыя амэрыканскіх адвакатаў і праваабарончыя арганізацыі.

Аднак адміністрацыя прэзыдэнта ЗША Буша адрэагавала нэгатыўна. У той жа час афіцыйны прадстаўнік краіны Філіп Кірх лічыць, што як толькі суд пакажа, што дзейнічае справядлівым і непалітычным шляхам, апазыцыя Белага Дому да яго зьменшыцца. "Беручы пад увагу амэрыканскую традыцыю аданасьці міжнароднаму правасудзьдзю, гэта толькі справа часу, калі зьявіцца супрацоўніцтва паміж ЗША і такой важнай установай", – запэўніў ён.

Усяго на сёньня дамову аб стварэньні суду падпісалі 139 дзяржаваў. Лічыцца, што аднымі зь першых ягоных "кліентаў" могуць стаць Пінячэт і Садам Хусэйн.

Не паставіла пад пагадненьнем свайго подпісу Беларусь. Аднак ў адрозьненьне ад ЗША, ніякіх камэнтароў з гэтай нагоды афіцыйны Менск пакуль не прадставіў.

*Віталь ЦЫГАНКОЎ*

ДА 120-ГОДЗЬДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭНЬНЯ НАРОДНЫХ ПЕСЬНЯРОЎ

# На скрыжаваньнях нацыянальнай культуры

***У магілёўскай СШ №35 прайшла творчая вечарына, прысьвечаная юбілейным угодкам з дня нараджэньня Янкі Купалы й Якуба Коласа.***

Арганізавалі сустрэчу-конкурс школьная суполка Таварыства беларускай мовы й мэтадычнае аб'яднаньне настаўнікаў беларускай мовы. Цягам сьвяточнай вечарыны ў творчае спаборніцтва выправіліся сем вучнёўскіх камандаў. Але перад тым малодшая ўдзельніца сустрэчы Каця Несьцяровіч павітала хлебам-сольлю шаноўных гасьцей, якія адначасна складалі журы конкурсу. Дарэчы, склад журы быў вельмі прадстаўнічы. Дастаткова ўзгадаць імёны шаноўнага навукоўца й выкладчыка Яраслава Клімуця, дацэнта катэдры славянскай філялёгіі МДУ імя Куляшова ды непараўнальнага актора й рэжысэра Валянціна Ермаловіча, кіраўніка народнага тэатру, заслужанага дзеяча культуры Беларусі. Менавіта спадар Ермаловіч літаральна "узарваў" перапоўненую залю падчас свайго, як заўсёды, эмацыйнага мастацкага выступу.

Што тычыцца спаборніцтва навучэнцаў, дык яно атрымалася зьмястоўным і шчырым, а таму апісаньне яго на паперы – цяжкая задача. Але паведамлю чытачам, што дзядзька Антось на прыпынку "Жыцьцёвыя сьцежкі" прапанаваў прысутным успомніць зьвесткі зь біяграфіі пісьменьнікаў. Потым на сьвята завітала прыгажуня-Паўлінка, і ўдзельнікі зрабілі інсцэніроўкі найбольш цікавых урыўкаў зь безьсьмяротных твораў народных песьняроў. Затым надышоў час на сьпевы разам з Сымонам-Музыкам і Ганнай. Напрыканцы навучэнцы прадэманстравалі гледачам і журы свае малюнкі й газэты, прыгадалі творы вядомых мастакоў, успомнілі, як на Беларусі ды ў іншых краінах сьвету ўшаноўваецца памяць народных паэтаў...

Дадам яшчэ, што беларускую літаратуру ў школе сапраўды любяць. Гэта стала асабліва заўважна ў часе, калі журы (куды ўваходзілі таксама былы навучэнец 35-й школы, прадстаўнік арганізацыі "Аматары "Беларускага кнігазбору" Алег Дзьячкоў, намесьніца дырэктара школы Ганна Шэпелева й мэтадыст раённага аддзелу адукацыі Галіна Малей) спрачалася ў сваім коле, вызначаючы пераможцаў. Тады на сцэну выйшлі школьнікі, каб прачытаць свае любімыя вершы беларускіх паэтаў. Запомніўся выступ Мілы Гардзіенкі, якая прасьпявала "хіт" Генадзя Бураўкіна "Я ўдзячны лёсу", а таксама дэклямаваньне Аксанай Лапцевай свайго ўласнага вершу "Мой любімы паэт", прысьвечанага Янку Купалу.

Калі нарэшце журы агаласіла вынікі, то ўсе ўдзельнікі павіншавалі зь перамогай каманду "Купалінка" 7-ай "Ж" клясы, якая атрымала галоўны прыз – смачны беларускі пірог. Да таго ж усе ўдзельнікі сьвяточнага конкурсу атрымалі беларускія кнігі й паштоўкі.

... Тры гадзіны праляцелі непрыкметна. Надышоў час разьвітаньня. Безумоўна, што справаздачная вечарына была добрым працягам школьных спатканьняў мінулага году, калі да нас прыязджаў паэт Генадзь Бураўкін і старшыня Саюзу пісьменьнікаў Беларусі Вольга Іпатава. Верыцца, што ў нашай школе будуць новыя падобныя сустрэчы на скрыжаваньнях беларускай нацыянальнай культуры.

*Яўген ЗАДЗІРАН, кіраўнік суполкі Таварыства беларускай мовы ў СШ №35 Магілёва*





# Асаблівасьці чарговага разуменьня

***Распачаты, ці дакладней абвешчаны, працэс акцыянаваньня буйных прадпрыемстваў краіны пакуль толькі справакаваў у працоўных калектывах ажыўленыя дыскусіі наконт мэтазгоднасьці такой кампаніі.***

Сумневы нараджаюцца не на пустым месцы. Дзяржаўныя газэты, радыё і тэлевізія (зразумела, па загаду кіраўніцтва краіны) шмат год вядуць упартую прапаганду нейкага адмысловага шляху Беларусі, якая выдатна абыходзіцца без прыватызацыі, акцыянаваньня, інвэстыцыяў... Ды пры гэтым яшчэ й нібыта "захавала патэнцыял", не дазволіла "разбазарыць, раздаць, прадаць" і да т.п.

Аднак жа якраз эканоміку й немагчыма падмануць. Як усім вядома, краіна спазьнілася з рэформамі. Марудзіць далей – падобна сьмерці. Вось жа ўсе, ізноў жа, зразумела, па загаду зьверху, загаварылі пра акцыянаваньне. Рэзкая перамена поглядаў многіх зьбівае з панталыку і ўносіць блытаніну ў галовы. Акцыянаваньне і прыватызацыя – гэта ж "апазыцыйныя" ідэі! Ці можа ўжо – не?.. Разьбярыся тут!

Паспрабуем. Дзеля гэтага дадзім слова тым, хто ніколі асабліва не вагаўся, хто разумее эканоміку, хто ведае асаблівасьці беларускага стану.

**Намесьнік старшыні грамадзкага аб'яднаньня "Альтэрнатыва-XXI" Сяргей Балыкін:** У Беларусь прыстойны капітал сёньня ня пойдзе. Запозна. Сюды пойдзе толькі рызыкоўны капітал. Магчыма, крымінальны. Перш за ўсё – расейскі. Бо расейцы ведаюць, што тут няма нармалёвай рынкавай эканомікі, а значыць ёсьць ценевая і карупцыйная.

**Лідэрка незалежнага прафсаюзу бабруйскай "Белшыны" спн.Захожая:** Людзі ніякага сьвядомага рашэньня прыняць ня могуць. Бо яны не разумеюць, што такое акцыянаваньне й якая роля адводзіцца працоўнаму калектыву ў гэтых працэсах. Людзі нічога гэтага не разумеюць, ня ведаюць, людзі разгубленыя. Але калі генэральны дырэктар асабіста падлічвае паднятыя рукі на сходзе, ня кожны мае сьмеласьць падняць гэтую руку супраць.

**Старшыня Фэдэрацыі прафсаюзаў і экс-кандыдат у прэзыдэнты ад грамадзянскай кааліцыі Ўладзімер Ганчарык:** Традыцыйны рынак для нас — расейскі. Дык вось расейскі капітал ужо стаў на ногі. Ён ужо дастаткова моцны. Цяпер у яго адна мэта: атрымаць найбольш выгодаў. І нам ня трэба гэтага палохацца. Няхай ідуць да нас з добрым капіталам, сучаснай тэхналёгіяй. Гэта нам трэба, каб не застацца ў тым заняпадзе, напрыклад, у прамысловасьці, дзе мы зараз знаходзімся.

**Прэзыдэнт недзяржаўнай Асацыяцыі садзеяньня эканамічнаму разьвіцьцю Васіль Шлындзікаў:** Некаторыя вытворчасьці, магчыма, і трэба перадаць расейскім алігархам. Там, дзе трэба мадэрнізаваць прадпрыемствы. Дзе мэнэджмэнт прадпрыемства сам не асіліць гэтыя задачы. Усё гэта мусіць аналізавацца ў інтарэсах народу. Тады й ня будзе супярэчнасьцяў паміж нацыянальным капіталам, які павінен у нас нараджацца, і замежным капіталам. Беларуская дзяржава мусіць паклапаціцца, каб атрымалі ў рукі ўласнасьць тыя людзі, якія могуць ёй кіраваць.

**Кіраўнік прадстаўніцтва Міжнароднай фінансовай карпарацыі ў Беларусі Карл Дагенгарт:** – Я думаю, што патрэбныя інвэстыцыі з абодвух бакоў: расейскія і эўрапейскія. Але ў заходніх інвэстыцыяў ёсьць адна вельмі сур'ёзная перавага. Найперш, заходнія інвэстары, што прыходзяць у Беларусь, прыносяць з сабой больш высокія тэхналёгіі, чым у Расеі, новыя веды й самы дасканалы досьвед у сфэры мэнэджмэнту. Але самае галоўнае, што інвэстар з Захаду ня толькі прыносіць капітал і тэхналёгію, але й адчыняе для вырабленых у Беларусі тавараў рынкі на Захадзе.

*Міхал СТЭЛЬМАК*









ДА МІЖНАРОДНАГА ДНЯ ПОМНІКАЎ І МЯСЬЦІНАЎ

# ... На тое і грамадзкасьць

***Ня надта папулярны ў нас, трэба адзначыць з жалем, гэты сусьветны Дзень увагі да гісторыі і яе матэрыяльных сьведчаньняў.***

Але гэтым разам у Магілёве высілкамі шэрагу грамадзкіх арганізацыяў ён адзначаецца даволі шырока. Сёньня суполка аматараў падарожжаў "Чароўны ўспамін" ладзіць у горадзе выставу "дарослых" фотаздымкаў ***(у большасьці – А.Ліціна)*** і дзіцячых акварэляў пад агульнай назвай "Мсьціслаў – Пустынкі". Зразумела, што фота- і мастацкія творы сталіся творчай справаздачай сябраў суполкі аб наведаньні гэтага цікавейшага кута роднай Магілёўшчыны. Напярэдадні імпрэзы сябры гэтага клюбу аматараў беларускай гісторыі і падарожжаў правялі талаку па ўпарадкаваньні недагледжаных пахаваньняў на магілёўскіх Усьпенскіх могілках. Перш за ўсё былі прыведзены ў належны стан магілы прадстаўнікоў старажытнага праваслаўнага шляхецкага роду Гартынскіх. Найбольш вядомым зь іх быў гісторык і перакладчык Мікалай Рыгоравіч Гартынскі, які напрыканцы 19 ст. сярод іншага ўпершыню падрыхтаваў да друку "Кроніку беларускага горада Магілёва".

А ўчора група магілёўскай моладзі, таксама неабыякавай да гісторыі і нацыянальнай культуры, прысьвяціла вольны ад вучобы і працы час добраахвотнай працы на так званых "Польскіх могілках". Хлопцы і дзяўчаты прыбралі сьмецьце, тое-сёе падфарбавалі, памылі, падрамантавалі. Пры гэтым напярэдадні яны дазналіся ў гісторыкаў пра тое, калі зьявіліся ў нас каталіцкія пахаваньні й хто сьпіць на гэтых могілках вечным сном...

Гэтаму ж Дню бясплатную працу па добраўпарадкаваньні тэрыторыі Палыкавіцкай крыніцы прысьвецяць актывісты магілёўскай грамадзкай экалягічнай арганізацыі "ЭНДА". Але адбудзецца тое крыху пазьней. Цяпер ініцыятары акцыі займаюцца набыцьцём неабходных рабочых прыладаў, а таксама прыцягненьнем ў брыгаду навучэнскай і працоўнай моладзі ў якасьці валанцёраў.

***Уласная інфармацыя***





## Якім будзе фэстываль?

**На ліпень прызначаны традыцыйны, сёлета – 10-ты Міжнародны фэстываль духоўнай музыкі "Магутны Божа".**

Аднак, здаецца, што ён губляе свой магілёўскі статус і пераходзіць пад патранаж сталіцы. Справа ня ў тым, што сёлета шэраг фэстывальных канцэртаў пройдзе ня толькі ў Магілёве, але і ў Менску. Насьцярожвае тое, што дагэтуль так і не зарэгістраваны магілёўскі грамадзкі фонд "За адраджэньне культуры", утвораны колькі месяцаў таму менавіта з мэтай выратаваньня Міжнароднага фэстывалю "Магутны Божа". Ні касьцёлу, ад якога калісьці пачаўся фэстываль, ні гарадзкой управе культуры паасобку больш не пад сілу самастойнае правядзеньне гэтага сьвята. Надзея ўскладалася на ўтвораны ягоны грамадзкі Фонд, куды ўвайшлі, здаецца, аўтарытэтныя і вядомыя ў горадзе людзі. Але нешта, відаць, не заладзілася ў іх, альбо па-просту не хапіла настойлівасьці і самаадданасьці. Вось тут Мінкультуры й скарыстаўся момантам. Але ягонае апекаваньне над самабытным фэстам можа толькі занепакоіць, бо "дзяржаўны ўплыў" на сьвята духоўных сьпеваў заканамэрна абернецца цэнзурай. У выніку з вольнага музычнага сьвята, якім фэстываль быў зусім нядаўна, чыноўнікі зробяць філярманічную канцэртную праграму, якую нельга будзе адрозьніць ад усіх гэтых "дзён культуры", "славянскіх базараў", "менскіх восеняў" ды інш.

Аднак жа ня будзем сьпяшацца з высновамі. Адказы на ўсе перасьцярогі дасьць толькі сам фэстываль. "ТМ" будзе вельмі шчасьлівы, калі ягоны пэсымізм ня спраўдзіцца...

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК па пытаньнях культуры***

## Талака на крыніцы

**У нядзелю сябры шэрагу грамадзкіх экалягічных арганізацыяў і праваслаўнай Палыкавіцкай грамады ладзяць на Сьвятой Крыніцы талаку.**

Мяркуецца прыбраць тэрыторыю крыніцы, тым самым заклаўшы пачатак набліжэньня гэтага месца да адпаведнасьці званьню рэспубліканскага помніка прыроды.

Ініцыятыва талакі нарадзілася падчас нядаўняй сустрэчы экалягічнай грамадзкасьці з прадстаўнікамі ўлады па праблемах крыніцы ў Палыкавічах. Было прынятае ўзгодненае рашэньне аб тым, што толькі клопат самой грамадзкасьці і праваслаўнай грамады здольныя ўратаваць гэтае месца. Наступным крокам сталася ўтварэньне ініцыятывы "За чысьціню Палыкавіцкай крыніцы", ад імя аргкамітэта якой магілёўцы й запрашаюцца на нядзельную талаку – на працягу першай паловы дня, пажадана з раніцы, можна без уласных прыладаў.

Да сустрэчы на талаке!

***Ад імя ініцыятывы – старшыня Палыкавіцкай праваслаўнай грамады Аляксандар БЕЛАВУСАЎ***

## ШТО НА ТЫДНІ... У БЯЛЫНІЧАХ І ГЛУСКУ



***На паседжаньні літаратурнага клюбу "Крыніца" пры раённай бібліятэцы вывучалася жыцьцё і творчасьць слыннага нацыянальнага паэта Алеся Гаруна.***

З нагоды 115-ай гадавіны з дня нараджэньня пісьменьніка была аформленая кніжная выстава. Сярод старэйшых навучэнцаў СШ №2 райцэнтру была праведзеная віктарына. Кіраўнічка клюбу Надзея Струновіч займальна правяла паэтычную гадзіну "Абнавіцца духам", а настаўніца, старшыня школьнай суполкі ТБМ Людміла Казлоўская распавяла аб асноўных накірунках і матывах творчасьці паэта.

***Загадчык аддзелу адукацыі райвыканкаму Мікалай Пашкоўскі распараджэньнем старшыні выканкаму Г.Шпакоўскага пазбаўлены 30% прэміяльных і 10% надбаўкі да службовага акладу за красавік.***

Такім чынам начальнік адрэагаваў на факт крадзяжу 25-ці яек, 10-ці яблыкаў і 2-х пакетаў сьмятаны, які зьдзейсьніў кухар сталоўкі Іскраўскай базавай школы. А ўвогуле пошукам усіх вінаватых займаюцца цяпер супрацоўнікі аддзелу па барацьбе з эканамічнай злачыннасьцю мясцовага РАУС.

***Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ***



***Значна пагоршылася ў раёне дэмаграфічная сытуацыя. Яшчэ летась на адно народжанае дзіця прыходзілася дзьве сьмерці. Сёлета – амаль чатыры.***

***Ігар КІРЫН***

Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта. Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».

*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*

*Штотыднёвік*

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.



Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.

E-mail: krug@user.unibel.by

Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Сьпірыдона Собаля, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 16. Наклад 1000 асобнікаў. Падпісана да друку 18.04.2002 г. а 17.05